


ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA" („VATERLAND")
Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna" („Das Vaterland"), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck: „LOGOS", Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 8, Rosenheimer Str. 46 a.

**Цана: Нямеччына:** на год — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; **ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 д. **Ангельшчына й Аўстралія:** 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл. **Бэльгія:** 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка лётніцкай поштай аднаго нумару газэты каштуе дадаткова:** у ЗША і Канаду — 40 фэнігаў (10 ам. цэнт.); у Аргентыну — 70 фэн. (17 ам. ц.); у Аўстралію — 90 фэн. (22 ам. ц.). Падвойныя нумары каштуюць падвойна.

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna", Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE" | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND" | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER "THE FATHERLAND"

№ 24 (358) — Нядзеля, 16 чэрвеня 1957 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 11

# Катняя літасьць

Хто ведае, ці можна зьлічыць ахвяры нашага народу за сорак гадоў панаваньня на беларускай зямлі акупацыйнага бальшавіцкага рэжыму. Адным з найвялікшых злачынаў чужынца было вынішчэньне інтэлігэнцыі, якая выйшла з народу ды вяла перад у народным імкненьні да нацыянальна незалежнага бытаваньня.

Тэрарыстычны перасьлед нацыянальнае ідэялёгіі сягнуў да найвышэйшага зьверху ў пэрыяд г. зв. разгорнутага нацыялістычнага наступу на самыя асновы жыцьця народу, на ягоную сьвядомасьць і традыцыі. Разам з бальшавіцкімі пяцігодкамі ды калектывізацыяй па Беларусі прайшло аж колькі спусташальных тэрарыстычных нахлынаў.

Аднымі зь першых ахвяраў сталі пісьменьнікі ды ня толькі выразна апазыцыйныя, але й тыя, што здаваліся рэжыму не асабліва надзейнымі, хоць і былі часта праваднікамі ягонай лініі Тры хвалі масавых арыштаў — у 1930 і 1933 гг. ды ў часы ўсёвынішчальнай яжоўшчыны — вырвалі з жыцьця найздальнейшых літаратараў. Пакінулі тады пры літаратуры пераважна ўвішных кар'ерыстых, людзей нацыянальна бязхрыбетных ды колькі старэйшых пісьменьнікаў адно дзеля спэкуляваньня іхнымі імёнамі перад народам для вонкавага паказу нібы дбайнай нацыянальнай бальшавіцкай палітыкі.

У тыя згібелыя часы менскі Дом пісьменьніка людзі наведвалі галоўна каб пабачыць яшчэ ўцалелых ды пачуць пра чародныя ахвяры. Па кажнай перажытай начы жменька сяброў нясупынна малела. Ці не таму стала конча патрэбнаю штодня хоць часінная, позіркавая сяброўская сустрэча.

Гэтыя згадкі набеглі ня выпадкам, а ў сувязі з акцыяй своеасаблівага рэгабілітаваньня калісьці рэпрэсіяваных, якая праведзеная з поўным датрыманьнем славутага «трымаць і ня пушчаць». Вось чаму ня ўсе літаратары, пазбаўленыя ў свой час грамадзянскае годнасьці, сяньня адноўленыя ў ёй. Пад мянушкай «ворагаў народу» напэўна засталіся ўсе тыя, для каго нацыянальныя імкненьні былі адзіным прызначаньнем іхнага жыцьця.

Пацьвердзіліся патайныя чуткі-здагадкі пра гвалтоўную сьмерць бальшыні рэпрэсіяваных, Яны загінулі ці то ў падвалах НКВД, ці-то на далёкай поўначы пры нявольніцкай галоднай працы. Па дваццацігадовым выгнаньні на Беларусь вярнуліся жывымі адно лічаныя асобы.

І нарэшце, ужо як закругленьне рэгабілітацыі — загаднае ўтойваньне перад шырокім грамадзтвам колішніх масавых рэпрэсіяў, боязь публічна расказаць пра тую страхотную праўду. Якраз яна й зьвінавачвае рэжым у нячуваным злачыне — таму й загадана маўчаць пра яе.

Вось чаму ў творах дваццаць гадоў нясустраканых аўтараў, што зьявіліся нядаўна ў друку, адно часамі прабіваюцца нявыразныя згадкі пра цяжар мінулага, хоць яго «суворая памяць ня можа ня помніць», як піша адзін з гэтых аўтараў. Але ў бальшавіцкіх умовах «суворая памяць» ня толькі ня можа раскрыцца, а мусіць яшчэ й пераахварбоўвацца на людзях у савецкія колеры, ператвараючыся ў вымушаную ілжу на сябе. Гэткая ідэялягічная апрацова паўночных матываў з абавязкавым працоўным уздымам, савецкім патрыятызмам і адданасьцяй рэжыму, хоць нічога падобнага ў нявольніка не магло быць. Разам з рэгабілітацыяй людзям далі й напамін, як ды пра што яны мусяць пісаць.

Мусовая афіцыйная заслона над праўдай выгнанства й рэпрэсіяў абавязкавая ня толькі для колішніх ссыльных, але й для тых, хто піша ці гаворыць пра іх. Прыкладам, у рэцэнзіі на зборнік апавяданьняў Янкі Скрыгана ў леташнім № 9 часапісу «Беларусь» пра дваццаць гадоў выгнаньня гаворыцца такім нявінным сказам: «пісьменьнік доўгі час знаходзіцца за межамі Беларусі». У гэткім стылі замоўчваньня пішуць і пра нябожчыкаў, што трапілі ў рэгабілітаваньня. У зацемцы, зьмешчанай 1-га сьнежня летась у газэце «Літаратура й мастацтва», зазначаецца пра Сымона Баранавых — «нядоўга працягвалася пісьменьніцкая дзейнасьць». Але дзе ды чаму яна была абцятая ў 1942 г. — ні слова.

З гэтай пісаніны чытач ніяк не дазнаецца праўды ні пра тых, каму пашчасьціла выжыць, ні пра тых у каго жыцьцё адабралі, а сяньня раптам пачалі нібы на палітычным кірмашы выхваляць іхную творчасьць. З аднаго боку, прыкладам, «Галавач усе сілы свайго таленту аддаў служэньню народу», як акцэнтуецца ў артыкуле сёлетняга першага нумару «Полымя», а з другога — поўнае маўчаньне пра тое, што ўзьняты сяньня на шчыт пісьменьнік быў расстраляны ў НКВД 29 кастрычніка 1937 г. У Чаротавых творах, як пра гэта сьветчыць зацемка газэты «Літаратура й мастацтва» за 13 лютага сёлета, раптам убачылі «непаўторны калярыт рэвалюцыйнага пэрыяду», — але маўчаць пра тое, што сам Чарот быў таксама расстраляны ў падвалах НКВД неўзабаве па арышце. Называюць імя Цішкі Гартнага, раман якога «Сокі цаліны» мае хутка выйсьці, але чытачу не гавораць, што катаваньні ў часе допытаў давялі Гартнага да вар'яцтва. Пра Ўладзімера Хадыку сяньняшні старшыня пісьменьніцкай арганізацыі БССР Пятрусь Броўка сказаў на сёлетнім пленуме пісьменьнікаў — «мы ўсе яго сучасьнікі й таварышы», але не знайшоў мужнасьці сказаць, што гэты таленавіты паэта загінуў пры нявольніцкай ызычнай працы на выгнаньні ў часе выбуху, калі быў забіты каменным адломам.

У гэтым-жа дакладзе пра становішча савецкай беларускай літаратуры Броўка назваў 17 рэгабілітаваных аўтараў. Іхная творчасьць, як ён сказаў — «стала ў строй», што «за леташні год у нашу паэзію прыйшло радаснае папаўненьне… Гэта вельмі добра й радасна». Але й словам не абмовіўся, што ўсе названыя аўтары аж два дзесяткі гадоў афіцыйна былі ў «ворагах народу», а во: сем зь іх «сталі ў строй ужо нябожчыкамі. Творчасьць усіх гэтых людзей была ня проста, як сказаў Броўка — «незаслужана забытай», а была забароненай, як варожыя. Іншая рэч, што сяньня яе бязь меры выхваляюць, хоць у ёй нічога ня зьіначылася, а нябожчыкі не зьявіліся паводля савецкага звычаю біць чалом з прызнаньнем памылак. Што да «радаснага папаўненьня», дык яно ня прыйшло, а яго прывялі на агалелае праз палітыку месца, як калісьці яго выкінулі, каб агаліць літаратуру. Дый радасьць ня зусім натуральная, бо палавіна рэгабілітаваных даўныя нябожчыкі, якія ўжо ніяк рэагаваць ня могуць. А калі яны й сталі раптам блізкімі, дык мусяць выклікаць адно смутак з прычыны іхнае ўтраты з чужое волі.

Усё згаданае магло здарыцца адно ў бальшавіцкай татальнай дыктатуры, ды яно нагадвае літасьць ката, які, управіўшыся ўпотай пасьцінаць галовы сваіх ахвяраў, на людзях раптам расчуліўся ды прыгарнуў да сябе трупы ўчорашніх жывых, ўмыўшы рукі ў крыві й ад крыві.

Але на афіцыйнай радасьці пункту ня ставяць, бо сярод рэгабілітаваных ёсьць і жывыя. Вось дзеля гэтай часткі

(Заканчэньне на 3-яй бачыне)

# Каланізатары працуюць

Што з усіх саюзных рэспублік БССР мела найбольшыя страты жыхарства ў часе вайны — гэта факт агульнавядомы. Адразу пасьля вайны цяжка было падсумаваць, якімі лікамі гэтыя страты выражаліся. Зразумела, былі тэарэтычныя дапушчэньні й вызначэньні, у якіх аднак межы дакладнасьці былі за шмат рухомымі.

У мінулым годзе мы даведаліся, што ў межах сучаснае БССР жыве ўсяго 8 міліёнаў чалавек, у той час, калі напярэдадні вайны (праўда, улучна зь Беласточчынай) жыхарства БССР дасягала 10,5 міліёнаў. Тут мала ад лічбы 10,5 адняць 8, каб сказаць, што за вайну страты жыхарства дасягнулі 2,5 міліёнаў чалавек. Нельга забывацца, што гэты трагічны лік «восем» мы пачулі толькі адзінаццаць гадоў пасьля вайны, на працягу якіх быў-жа, хоць і ніжэйшы за нармальны, натуральны прырост. Такім чынам ясна, што, з аднаго боку, ваенныя страты жыхарства БССР былі куды большымі чымся гэта агульна дапускалася; з другога-ж боку — факт пэўны, што навет ня гледзячы на ўпадак нараджальнасьці ў часе вайны, які сяньня адбіваецца на росьце жыхарства, мусяць быць яшчэ іншыя фактары, якія паглыблялі й паглыбляюць дэмаграфічны крызыс у БССР. Да гэтых фактараў належаць масавыя «чысткі» (у першых пасьляваенных гадох) ды сталыя масавыя вывазы жыхарства за межы БССР, што працягваюцца й аж да апошняга часу.

На маргінэсе прыпомнім сабе, што нярэдка прыходзіцца сустракацца тут на Захадзе з такой апініяй, быццам ніякіх масавых вывазаў няма, ды што гэта толькі нацыяналістыя распальваюць вывазную гістэрыю. Няважна, ці такія пагляды прышчэпліваюцца тут агентамі бальшавікоў, ці зьяўляюцца самародна, як вынік абмежаванасьці, страху ды й нярэдка сораму глянуць праўдзе ў вочы, той праўдзе, якая можа ўздрыгнуць прыспанае й затлусьцеўшае сумленьне ня толькі радавога буржуа, але й тых, што часта кідаюцца такімі фразамі, як «Мы адказныя за лёсы народаў і сьвету»!

Тым-жа, якія хочаць бачыць рэчаіснасьць, прапануем уважна сачыць за тымі дадзенымі, якія публікуюць не «нацыяналістыя», а самі бальшавікі.

Глянем на дынаміку жыхарства БССР за апошнія два гады (1955—1957), базуючыся на колькасьці зарэгістраваных выбаршчыкаў у саюзных рэспубліках у гэтых двух гадох (дадзеныя былі апублікаваныя ў савецкай прэсе). І так, у параўнаньні з 1955 годам у 1957 годзе ў БССР колькасьць выбаршчыкаў збольшылася на 133 420 чалавек, або на 2,68 працэнтаў, у той час як ува ўсім Савецкім Саюзе — на 6,26 працэнтаў. Прыгэтым найважнейшае: паводля нармальнага сярэдняга прыросту ў БССР колькасьць выбаршчыкаў мусіла-б збольшыцца на 310 300; значыць — **за два гады дзесьці «згубілася» 176 880 чалавек дарослага жыхарства!** Дзе яны дзеліся? Адказ мы знойдзем найхутчэй, калі параўнаем такія-ж цыфры, прыкладам, у Казахскай ССР. Тут за гэтыя два гады паводля нармальнага сярэдняга прыросту колькасьць выбаршчыкаў мусіла збольшыцца на 278 300 чалавек, а тымчасам фактычна яна збольшылася на 774 952 чалавекі; значыць **тут за два гады «знайшлося» лішніх 496 652 чалавекі!** Камэнтары хіба непатрэбныя.

Вывазы й «дабраахвотныя» выезды Беларусаў на цаліну й будаўніцтвы на Ўсходзе паўстаюць, такім чынам, перад намі ўва ўсёй сваёй трагічнай запраўднасьці. Калі мець да гэтага на ўвазе агромныя страты жыхарства ў часе вайны, дык, ня будзе лішне нацягнутым, калі скажам, што Беларусь у дэмаграфічным дачыненьні стаіць на парозе катастрофы.

Апрача чыста дэмаграфічнага, сюды далучаецца ня менш важны мамэнт нацыянальны, аб якім ужо няраз пісалася ў «Бацькаўшчыне». Раськідваньне Беларусаў па вялізарных абшарах Усходу бязумоўна вядзе за сабой дэнацыяналізацыю іх, ці, больш канкрэтна, русыфікацыю, а значыць зьменшаньне беларускага нацыянальнага патэнцыялу. Ад Расейцаў можна пачуць апраўданьне, што быццам яны таксама паддадзеныя такому самому працэсу дэнацыяналізацыі, калі пераяжджаюць на даўжэйшы час на тэрыторыю, прыкладам, Беларусі. Вось-жа ўсё гэта няпраўда! Згаджаемся, што таксама й шмат Расейцаў пакідае свой край ды едзе дабраахвотна ці пад ціскам у іншыя савецкія рэспублікі. Аднак ім ніякая дэнацыяналізацыя не пагражае. Яны прыяжджаюць у нацыянальныя рэспублікі не як «нацмены», а як прадстаўнікі «выбранага» й самага «перадавога» народу, якія не патрабуюць валодаць мовай таго народу сярод якога яны апынуцца. Мала таго — яны тут адразу-ж становяцца вялікім фактарам русыфікацыі, бо як прадстаўнікі пануючае нацыі маюць для гэтага ўсе патрэбныя сродкі, пачынаючы ад прэсы й канчаючы накінутай і бяздыскусійнай «прагрэсыўнасьцяй» усяго таго, што расейскае.

Таксама можна часамі пачуць ад Расейцаў (а ў паасобных выпадках і ад заходніх «экспэртаў» усходніх справаў) і такое бязглуздае цьверджаньне, што быццам бальшавікі штучна падтрымліваюць нацыяналізм нерасейскіх народаў СССР і гэтым самым падміноўваюць прынцып «адзінанедзялімства» расейскай імпэрыі. Не, гаспада, ня бойцеся, бальшавікі ў гэтым дачыненьні ад вас нічым ня розьняцца. Ужо вышэйпрыведзенага дастаткова, каб пабачыць, што каляніяльная палітыка царскіх часоў у дачыненьні да Беларусі кансэквэнтна вядзецца далей бальшавікамі і вы, гаспа-

(Заканчэньне на 2-ой бачыне)

# За мінулы тыдзень

(пс) Як лёгка было прадбачыць, выступленьне Мікіты Хрушчова ў амэрыканскай тэлевізіі нарабіла шмат шуму. Хаця ў сваім інтэрв'ю Хрушчоў чоўп смаляныя дубы і ў ягонай балбатні ня шмат было канструктыўных прапановаў, затое было шмат прынадных абяцаньняў, якія маглі заімпанаваць наіўным слухачом. А наіўных, на вялікі жаль, ў дэмакратычным сьвеце хоць адбаўляў. Прыкладам, як салодка гучыць для вуха амэрыканскага фармэра прапанова пашырэньня гандлю з краінамі камуністычнага блёку і тое, што ён будзе туды экспартаваць сваю кукурузу, якая ў Савецкім Саюзе называецца «каралевай палёў». Яшчэ больш прывабна выглядзе хрушчоўская прапанова агульнага разбраеньня і амэрыканскі фармэр адразу ўяўляе сабе такі ідылічны абразок: ягоны Джэк, Джон ці іншы Боб ня будзе бадзяцца па якойсьці Нямеччыне, ці Японіі, але будзе сеяць і няньчыць «каралеву палёў» — кукурузу ў сябе ў Оклягоме, за якую Хрушчоў будзе яму плаціць даляры. Бызнэс — ёсьць бызнэс. На якую трасцу Амэрыка ствараe зялезную заслону, як гэта Амэрыканцам у вочы сказаў Хрушчоў, і гэтым самым змушае яго — Хрушчова — адгараджвацца ад Захаду «фанернай заслонай»? Чаму ў Амэрыку ня могуць пхацца праз вокны й дзьверы турыстыя з Савецкага Саюзу й пабачыць як жывуць Амэрыканцы? Хрушчоў-жа прапанаваў якнайшырэйшыя кантакты дэлегацыяў абедзьвюх вялікіх краінаў… Усё гэта змушае думаць сейбіта кукурузы ці грэчкі, які да гэтага ня мае штотыднёвых палітзаняткаў і ніхто яго не ганяе на мітынгі й дэманстрацыі. Атамная й вадародная зброя выклікае паніку ў дэмакратычным сьвеце. А Хрушчоў прапануе: давайце зьнішчым усе гэтыя небясьпечныя цацкі, якія могуць запаскудзіць атмасфэру ўва ўсім сьвеце й гэтым самым могуць у найлепшым выпадку зрабіць нас бязплоднымі.

Уся гэта хрушчоўская прапаганда, хаця й была шытая белымі ніткамі па чорным, зрабіла патрэбнае Хрушчову ўражаньне. Таму яшчэ раз варта запытацца: каму яна была патрэбная?

Як заўсёды, Амэрыканцы спасьцераглiся запозна й спрабавалі папраўляць палажэньне. І ня выйшла. Сэнатар Ноўленд, які праз той-жа самы «Колюмбія Бродкастынг Сыстэм» уступіў у палеміку з Хрушчовам, ня выявіў сябе вельмі-ж спрытным палітыкам, але даў яшчэ больш козыраў савецкай прапагандзе. Ягоныя выказваньні адносна выступленьня з НАТО Нарвэгіі выклікалі хвалю абурэньня ня толькі ў нарвэскай прэсе, але і ў амэрыканскай. Савецкая-ж прапаганда цяпер можа чаўпсьці ня толькі сваім грамадзянам, але грамадзтву дэмакратычнага сьвету: «Глядзеце, як Амэрыка разумее сувэрэннасьць краінаў, якія быццам-бы сувэрэнныя, калі амэрыканскі сэнатар вырашае што мае зрабіць якаясь дзяржава, ня пытаючыся думкі грамадзтва гэтай дзяржавы!

Што можна ўважаць за канструктыўнае ў выступленьні Ноўленда — гэта дамаганьне, каб Расея вызваліла тры балтыцкія краіны. Рэч зразумелая, што хутчэй, маўляў той Хрушчоў, «рак сьвісьне», пакуль Масква дабраахвотна згодзіцца вызваліць гэтыя краіны, але хай Мікіта ведзе, што аб ім думаюць…

Шкада, што Ноўленд забыўся пра Беларусь, Украіну, каўкаскія і іншыя народы, паняволеныя Расеяй…

☆

Міжнародная канфэрэнцыя свабодных прафсаюзаў, якая адбывалася ў Бэльгіі, абвінавацiла савецкі ўрад у тым, што ён ня выконвае прынятых ім у жнівені 56-га году канвэнцыяў у дачыненьні працоўных. Маюцца на ўвазе канвэнцыі Міжнароднай Арганізацыі Працы, якія гварантуюць працоўным права ствараньня свабодных арганізацыяў, якія-б абараняла іхнія інтарэсы й правы.

Згодна з асьветчаньнем Міжнароднай Канфэдэрацыі Свабодных Прафсаюзаў, савецкі ўрад сыстэматычна парушае гэтыя канвэнцыі, хоць пад імі ў сваім часе падпісаўся.

«У Савецкім Саюзе працоўныя ня маюць права ствараць арганізацыі і ўступаць у іх паводля свайго выбару. Наадварот, савецкія прафсаюзы зьяўляюцца ворганамі партыйнага кіраўніцтва і прыціску на працоўных».

Ёсьць-жа яшчэ быстрыя людзі, якія ў 1957-м годзе адкрываюць Амэрыку..

☆

Заходня-нямецкі пасол у Маскве выслаў савецкаму міністэрству замежных спраў мэмарандум ураду Нямецкай Фэдэральнай Рэспублікі. У гэтым мэмарандуме адцемліваецца, што савецкі ўрад да гэтага часу ня выканаў абяцаньняў, якія Булганін даў канцлеру Адэнаўэру ў верасьні 1955-га году. Булганін ад імя савецкага ўраду абяцаў разгледзіць пытаньне рэпатрыяцыі нямецкіх ваеннапалонных з Савецкага Саюзу. Аднак з агульнай колькасьці больш за 80 000 чалавек да гэтага часу вярнулася ў Нямеччыну толькі 9 600 ваеннапалонных. Можна думаць, што савецкі ўрад адкажа паводля старога шаблёну. «Недзе згубіліся»… як гэта здарылася з 12 тысячамі польскіх ахвіцэраў, якія знаходзіліся ў савецкім палоне й частку якіх пазьней знайшлі ў Катыні.

А ўсё-ж і яшчэ знаходзяцца людзі — а гэтакіх ёсьць шмат — якія вераць таму, што ім абяцаюць або падпісваюць маскоўскія сатрапы.

# «Радзіма» бязь Беларусі

**(Ліст да генэрала Міхайлава)**

Той-сёй з маіх суродзічаў на эміграцыі пісаў ужо да Вас з прычыны атрымліванае з Вашага Камітэту літаратуры. Вырашыў і я напісаць і нагадаць Вам крыху іншыя праблемы й пытаньні.

Ні ў вадным нумары газэты «За вяртаньне на радзіму» я ня вычуў голасу нашых суродзічаў-Беларусаў — праўдзівага, не падшытага прапагандовымі ніткамі голасу да нас, эмігрантаў зь Беларусі. Усюды голас ЦК з Масквы. І кажнаму, навет найсьціплейшаму чытаньніку, выразна бачна: паводля шаблёну гэнага голасу двума-трыма супрацоўнікамі газэты прадукуюцца выказваньні розных людзей, я веру, зь іхнае «згоды» і навет на падставе іхных «лістоў». Вось у маіх рукох колькі нумароў газэты. Чытаю: «Цяпер жывём добра. Бацька атрымлівае павышаную пэнсію» (№ 81); «Старыя нашы жывуць добра. Бацька па старасьці год атрымлівае ад дзяржавы пэнсію» (там-жа); «Жывём добра, ні ў чым ня маем патрэбы» (№78); «Дачка ходзіць у школу. Жывём усе добра» (№ 82); «Публіка апранаецца добра» (№ 74); «Вы таксама ўбачыце, якія вялікія клопаты **праяўляе** (падкр. мною — С. Н.) партыя і савецкі ўрад» (№92); «Будзеш акружаны ўвагаю і клопатамі» (№93); «Усе мы вельмі ўдзячныя нашаму савецкаму ўраду за тую дапамогу, клопаты і давер'е» (№ 94); «Савецкая дзяржава **праяўляе** вялікія клопаты... Наш Ігнат жыве добра» (№ 95); «Матар'яльна жывём добра, ні ў чым ня маем патрэбы» (№ 96); — літаральна, даслоўна, як у нумары 78-ым); «Будзеце акружаныя клопатамі» (№ 98)...

Усяму аднаму й таму самаму няма канца і трубіцца ўсё, казаў той, у вадну дудку. Калі-б і запраўды ў Беларусі быў надземны рай, дык кажны чалавек ўсёроўна пасвойму выказваў-бы свае спэцыфічныя думкі.

Паводля ціцеперся старога, дашчэнту зьбітага ў СССР шаблёну, газэта няўцíхна хлусіць аб «жахлівым жыцьці ў краінах капіталізму», аб «зьдзеках над працоўнымі» і г. д. Пэўна-ж ільга нам сваймі вачыма бачыць, як нас тут «мучаюць» тымі выгадамі працы, заробку, раскошнага ўладжаньня, запраўднага дабрабыту? (Што да беспрацоўных пры рэдкай зьяве, дык яны тут маюць шмат больш, як «па два кілёграмы збожжа й 5 рублёй грошай» на свой беспрацоўны дзень). Дзяржава тут уважае не за «клопаты», а за абавязак (таму ня хваліцца гэтым) плаціць пэнсію старым, інвалідам, удовам і г. д., дапамогу ня толькі шматдзетным, але й тым, што маюць усяго адно дзіцё. Дзьверы ў школы ўсім адчыненыя — калі ласка, вучыся, здабывай асьвету без цаліны. Нашы маладыя людзі зь сярэдняю асьветаю, што прыехалі сюды навет без бацькоў, пакончалі ўжо ўнівэрсытэты, калі мелі на гэта жаданьне й ахвоту, сталіся за дактароў, інжынераў, адвакатаў. Яшчэ сем-восем год таму 11-ці -12-цігадовыя хлопцы й дзяўчаты — сяньня ўжо пераймаюць жыцьцё зы здабыткамі сярэдняе асьветы; яны працуюць настаўнікамі ў пачатковых школах, тэхнікамі, службоўцамі ўва ўстановах. Хто жадаў, той пайшоў на ўнівэрсытэт. Яны ня выракліся й ня выракуцца Беларусі. У нацыянальнай грамадзе, у згуртаваньнях моладзі, у тэатральных групах, у хорах яны жывуць сваёю мовай, звычаямі й песьнямі. Балюча, што гэта на чужыне, адылі лепш жыць хоць у думках аб родным на волі, чымся бяз думак і жыцьця ў «роднай» няволі... Чаму-ж — спытаецеся — менавіта тыя людзі, якія адгэтуль прыехалі да Вас, кажуць і апавядаюць аб іншым? Так, яны «скардзяцца» на «жахі» за межамі — гэта праўда.

Паехалыя ў СССР людзі спад вельмі змрочных шыльдаў «савецкіх грамадзянаў», а разам зь імі забойцы й зладзеі, дабразычліва выпушчаныя пры неадбыцьці належнай кары «на радзіму» (гарбатага савецкая магіла выпрастае), таксама й тыпы, духова спустошаныя яшчэ за жыцьця пад Сталінам (ня маю наўвеце адзінак з жыхароў Заходняе Беларусі, непазналых у свой час Вашага «раю» і яшчэ, пры звароце, не пасьпелых як сьлед, зь ім азнаёміцца) — усе яны добра ведаюць сьпевы Вашае партыйнае дудкі. Яны стараюцца танцаваць пад ейныя гукі як мага найлепей (дзе дрэнна, у Вас паправяць, або й зусім выдумаюць на адрыс «танцавальніка» — гэтак званае ў Саветах «арганізаваньне матар'ялу» для прэсы), а таму-сяму гэта даецца з дасканальным майстэрствам. Той-сёй яшчэ перад прыездам у СССР стараецца «забясьпечыць» сябе і ад даўгога «бадзяньня на чужыне», за якое Вы дакараеце, і ад магчымага хто яго ведае? — падарожжа да «ліха на ўзгорачку». Вось нейкі М. Бендрык яшчэ ў дарозе «на радзіму» і, як відаць, наперад жадаючы «выслужыцца», пісаў: «Мы пражылі шэсьць год у Аўстраліі на становішчы рабоў, перанесьлі шмат пакут і гора... А тут яшчэ звальваюць з ног трапічныя хваробы (ня ў Новай Гвінэі жыў-жа Бендрык! — С. Н.). Урачы-ж пад выглядам лячэньня праводзяць экспэрымэнты, як на паддосьледных жывёлах» (№81). За гэтыя словы гэнаму М. Бендрыку, газэце і Вам, генэрал, хочацца шчыра падзякаваць: кажны наш сумленны суродзіч у Аўстраліі без камэнтараў пераконваецца ў Вашай бясконцай хлусьні, якая, як сьвятліню ад цемры, адхінае ад прапагоўванага Вамі вяртаньня. Калі Вы бессаромна хлусіце нам аб тым, што мы бачым, дык Вы ня можаце гаварыць праўды аб тым, чаго мы не забыліся і што не зьіначылася.

Сумленныя адзінкі, што ня ведалі савецкага «шчасьця», ды яшчэ радзейшыя адзінкі, што ведалі яго, але пад уплывам тугі за роднымі паверылі ў «амнэстыю» й «палепшаньне», перад сваім сур'ёзным крокам звароту-вяртаньня не задумаліся над тым, што на Беларусі, любасьцяй да якое яны так гарэлі, няма радзімы. Аб гэтым яскрава сьветчыць Ваша газэта і вось менавіта гэта я й хачу падкрэсьліць у сваім лісьце. Каб заманіць да вяртаньня найбольшую колькасьць людзей, газэта найстараньней іграе на струнках замілаваньня да Бацькаўшчыны, часамі вельмі ўважліва, нібыта ў думках аб Радзіме-Беларусі, падганяючы ўсё пад адзін капыл — «радзіму» ад Горадні да Ўладывастоку. Газэта часам навет адступае ад савецкае партыйнае догмы й піша, што дарма што на Захадзе белы хлеб, радзіма даражэйшая за ўсё. Найпераканальней кажа паэта П. Пястрак (№ 99): «Куды-б чалавек ні паехаў і як-бы ён багата ні жыў на чужыне, усёроўна самае лепшае ў яго душы застаецца ад Радзімы...» толькі не савецкай — дадамо ад сябе. Ад болю сьціскаюцца грудзі, ные сэрца, здавалася-б пакінуў-бы ўсе выгады й дабрабыт на чужыне, абуў-бы лапці, уськінуў-бы торбу на плечы — абы вольна ступаць шляхамі роднай зямлі. Пад савецкім-жа дэспатызмам вольна ня ступіш, а таму адзінае застаецца нам — воля на чужыне, а воля ня менш дарагая, чымся Бацькаўшчына, і аднолькавая для ўсіх людзей на сьвеце. Няўжо гэта зьнічы волі й «родная Беларусь» — узьнесеныя пад неба Дуравы й Чапаевы (№№ 93, 102) і зьнявечаная слава Скарыны й Каліноўскага? Як уважаць за голас Бацькаўшчыны хваласьпевы «выдатнай ролі старэйшага брата» ў ейнай адбудове? Ды ў якім сьвятле паўстае тая адбудова, што нішчыць і пасылае багацьці Беларусі ў Данбас, на Урал, а вырабы беларускай прамысловасьці — у Кітай, Эгіпт і г. д. — ды не на карысьць Беларусі, а на агрэсыўныя пляны Масквы? Ці надпісы «швейные», «Бригада» на фатаграфіі з Гомелю (б. 3, № 62), лёзунгі ў расейскай мове на вуліцах Берасьця, Магілёву (№ 61), фатаграфія палацу культуры (Ворша) з надпісам «Дворец культуры льнокомбината» ды сам назоў аднаго артыкулу «Молодечно» на фоне будынкаў (№ 92) — ці ўсё гэта ня сьветчыць, што Беларусы ў сваёй мове ня маюць права навет на камуністычныя лёзунгі пры сьвяточных дэманстрацыях, на шыльды, на назовы ўстаноў, вуліцаў ды інш? А аб чым гавораць гэткія выразы й словы ў газэце, ня кажучы ўжо аб правапісе, як «аказвае дапамогу», «праяўляе клопат», «пастаўленая задача», «на ўсіх участках», «аснашчоныя тэхнікай», «аказаная падтрымка», «рысуюць карціну», «унушаць», «ачагоў», «маючым», «жалкі», «подзьвігі», «а іменна» ды тысячы іншых? Хіба становяць сабою «непарушную дружбу народаў» друкаваныя ў газэце вершы розных паэтаў у расейскай мове, але не ў беларускім перакладзе? (як гэта нагадвае Вашу «родину»: «всё равно-русский язык всем понятен!»). Адылі Сяргею Есеніну («спит кавыль» — № 95) — ворагу савецкае ўлады, патрыёту «Руси» і абаронцу рэлігіі дазволена стацца ўспаміналым і незабароненым, але чаму ня сталася гэтага, прыкладам, з нашым Алесям Гаруном?

Паэта Ўладзімер Жылка некалі вярнуўся з Прагі Чэскай «на радзіму». Па кароткіх гадох «шчасьлівага» жыцьця й працы ў Менску ён быў арыштаваны, высланы й замучаны. Ён свайго часу пісаў:

Валей чужыны золь,
Сьцякаць ад чорнай працы потам;
Валей, ня змогшы боль,
Сканаць самотнаму пад плотам, —

Але ня лёс раба
Зь бязвольля ўласнага й бясьсільля,
Ня гэтая жальба,
Ня скутае рабамі крыльле.

Хто волю верна сьніць,
Працят лятункам аб вялікім,
Таго не спакусіць
Ні ўладай, ні дабром бязьлікім.

І хай прысуд гняце
І нікнуць вербалозы ніца, —
Душы аб пекнаце
Непераможна-думных сьніцца.

Гэтыя словы не разыходзяцца з нашымі думкамі на эміграцыі.

Факт, што за старшыню Камітэту «За вяртаньне на радзіму» ёсьць якраз Вы, генэрал НКВД-МВД, гаворыць сам за сябе. Вы не маглі не прайсьці праз кры-

**(Заканчэньне на 3-яй бачыне)**

**КАЛЯНІЗАТАРЫ ПРАЦУЮЦЬ**

**(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)**

да, мусіце ім толькі аплядаваць, што вы зрэштай няраз ужо й рабілі!

Мы-ж Беларусы, навет і ў вабліччы нашае вялізарнае нацыянальнае трагэдыі, ня трацім надзеі. І ня страцім яе, бо ўжо не адно ліхалецьце бачыў Беларус, а ўсё-ж жыве, хоць імпэрыяў на ягоным веку разьляцелася шмат...

**А. Галубіцкі**

# У паняволенай Беларусі

## «Дагонім і перагонім»

«Зьвязда» з 30-га травеня надрукавала вялікую інфармацыю аб «вялікім» сходзе ў сельгасарцеці імя Гастэлы Менскага раёну. На кароткім парадку дня мела месца адно доўгае, вялікае пытаньне: абмеркаваньне пляну хуткага павялічэньня вытворчасьці прадуктаў жывёлагадоўлі. Пытаньне ня новае — старое, як старэйшыя хрушчоўцы, але, адначасна, і вельмі маладое, сяньняшняе, бо як сказаў Хрушчоў, жыцьцё і дабрабыт савецкага чалавека залежыць цяпер ад каровы і сьвіньні... Можа яно й праўда: калі бальшавікі не разьвязалі гэтага пытаньня на працягу сарака гадоў, дык няхай гэтае эканамічнае бальшавіцкае сьвінства разьвязваюць цяпер каровы й сьвіньні. Толк, здаецца, будзе такім, як і дагэтуль!..

Цікавым было тое, што на гэтым «вялікім» сходзе быў і выступаў сам Мазураў; гэтая крамлёўская калатоўка на Беларусі не сказала ні свайго, ні новага, а паўтарыла толькі ўжо шмат разоўператоўчанае галоўным крамлёўскім таўкачом Хрушчовым: «Гістарычная задача, пастаўленая партыяй, — у бліжэйшыя гады дагнаць Задзіночаныя Штаты Амэрыкі па вытворчасьці мяса, масла й малака на душу насельніцтва — пад сілу нашаму народу, і ў барацьбу за пасьпяховае выкананьне яе павінны ўключыцца ўсе працаўнікі сельскай гаспадаркі». Варта адзначыць і яшчэ адну асаблівасьць на дадзеным хрушчоўскім этапе: апрача культу Хрушчова, які выразна распухае над нібыта пахаваным культам Сталіна, пачынаюць дзьмуцца й рэспубліканскія кульцікі тыпу Мазурава; апошні, як і ўсе іншыя першыя сакратары савецкіх рэспублікаў, выступаюць з дырэктыўнымі прамовамі ў аблюбаваных імі прысталічных раёнах, так, як некалі «бацька» Сталін выступаў у сваім Сталінскім раёне. Драбніца, але характэрная!

Пасьля Мазурава траскатаў на сходзе як той вымуштраваны чырвоны афрыканскі папугай, калгасны дзяркач - сакратар партыйнае арганізацыі сельгасарцелі імя Гастэлы Шыманскі. Пераціраючы сьмеху варты ў Савецкім Саюзе лёзунг «Дагнаць і перагнаць Амэрыку», ён кідаўся фантастычнымі лікамі й працэнтамі — дурманіў галовы сонных, нягшчасных «гастэлаўцаў» Менскага раёну. Сэнс ягонае прамовы ільга ўкласьці ў гэтакі, прыблізна, партыйны шаблён: «Ішлі і расьлі, але не дарасьлі... Маем гэта, а трэба мець вось тое, як родная партыя сказала... Калі мы вас падгонім, дык і Амэрыку дагонім... Вось і ўся мудрасьць, калі ня хочаце мець цяперашняга сьвінства...»

Адным словам, прамовы партыйных калатовак і дзяркачоў у калгасе імя Гастэлы Менскага раёну вельмі нагадваюць меркаваньні замарочанага абібока, які вылупіўшы вочы пазіраў на соннага пад кустом зайца: «Злаўлю зайца, заб'ю, здыму скуру, прадам, куплю пару вараных, сяду й крыкну: гэй, мае вараныя!» Заяц прачнуўся і ўцёк, а абібок застаўся з разяўленым ротам...

Ці не апынуцца ў такім палажэньні камуністычныя і ўсе майстры лёзунгу «дагнаць і перагнаць Амэрыку»?

Спадзяемся, што жыцьцё ў савецкім «раі» неўзабаве скажа сваё слова.

**Д. У.**

**К. Акула** 3)

# Тараканы ў саладусе

**(Камэдыя ў 3-ох дзьеях**

**ЗЬЯВА V**

**Таня, Мікола, Янка**

МІКОЛА І ЯНКА (уваходзячы): Добры вечар, Таня.

ТАНЯ: О-о-о! Добры вечар. Гаў ар ю?[22]) (у бок кухні). Мама дэды, то да вас людзі!

МІКОЛА (падыходзіць да Тані і стараецца яе ўзяць пад бародку): А можа-ж да вас, скуль-жа вы ведаеце, да каго?

ТАНЯ (б'е Міколу па руцэ і адходзіць да канапы): Да мяне? Вы? Нот э чанс[23]). Я сягоньня бізы[24])... (садзіцца на канапу).

**ЗЬЯВА VI**

**Тыя-ж, Сьцяпан і Марыля**

СЬЦЯПАН І МАРЫЛЯ (уваходзячы з правага боку): О-о-о! Добры вечар вам!

МІКОЛА І ЯНКА: Добры вечар (вітаюцца).

МАРЫЛЯ: Садзіцеся-ж, калі ласка.

СЬЦЯПАН: Садзіцеся.

МІКОЛА: Дзякуем, сядзелі. (Садзіцца з другога канца канапы і паглядае на Таню, якая ад нечага рабіць, гартае той-жа альбом. Марыля садзіцца напрыканцы стала, Сьцяпан каля шуплядкі, што з грашмі, зараз каля яго Янка).

СЬЦЯПАН: І даўно-ж мы ня бачыліся. Хвалецеся-ж, што ў вас добранькага.

ЯНКА: А, дзякуй Богу, усё добра, ніякіх зьменаў. Як-жа вы пажываеце, спадар Пінкевіч? Бачу, толькі што з працы прыйшлі...

СЬЦЯПАН: Ды вось прыйшлося сягоньня абіртайму рабіць, дык во толькі што, казаў той, уваліўся. Ды хацеў цяпер пры памятці сказаць вам, што прозьвішча маё ўжо ня Пінкевіч, а Пінк, казаў той. Можа вы ня зналі...

МІКОЛА: Пінк? (паглядае то на бацькоў, то на Таню). Пінк? А як-жа то так?

СЬЦЯПАН: Ды мы во так урадзілі зьмяніць, ну й зьмянілі. На суд мусіў, казаў той, ісьці, цэлы дзень працы страціць. Спэцыяльна так правялі і ў актах напісалі, што мы ўжо будзем Пінкі, а ня Пінкевічы.

ЯНКА: Вось яно як. Пінкі? А што-ж гэта вам дае?

СЬЦЯПАН: Нямнога, казаў той. Толькі тое, што гэтыя Канадыйцы будуць лёгка помніць, і абзываць усяк ды крывіць на ўсякія лады ня будуць. А так, казаў той, як Пінк... Пінк, ну дык Пінк кажны знае. Бабы тут наваліліся на мяне, бо й дзяўчыне на працы трабал[25])... і... і... ну, адным словам гэтак тут выгадней. казаў той...

ЯНКА: Выгадней, кажаце... Ну, яно-ж сабе так. А як-жа жывеце, спадар Пінк?

СЬЦЯПАН: От, казаў той, памаленку. Робім абіртаймы. Я працую і Мэры ды Тоні, а Біл яшчэ ў школу ходзіць, але як стукне гадоў чатырнаццаць, то пойдзе і ён даляркі зарабляць. Тут, казаў той, навуку добра мець, але й без навукі абыйсьціся можна. Хто мае грошы, той і чалавек.

ЯНКА: Дык бяды, кажаце, вялікай няма...

СЬЦЯПАН: Ды бяда такая, што як не заробіш, дык і не пражывеш. Грошы гэтых ніяк не набярэшся, казаў той. Трэба гаўза моргіджы[26]) выплачываць, тэксы[27]) вун яшчэ не плаціў, фрыдж[28]), вошмашына[29]) яшчэ ня выплачаны, ды тут дзяўчына абавязкава настайвае, каб тэлевіжан[30]) купіць; адным словам, чуць канцы з канцамі зьвязываем... даўгоў па вушы...

МІКОЛА: Так. Яно спачатку цяжкавата, пакуль тое-сёе нажывеш...

МАРЫЛЯ: Ну як-жа вы? Жаніцца часамі ня зьбіраецеся?

МІКОЛА (паглядаючы на Таню): Дзе-ж там жаніцца? Свае дзеўкі насы завысака задзіраюць, а чужых ня хочацца. Ды і з часам неяк коратка.

МАРЫЛЯ: Із часам коратка? А што-ж вы робіце?

ЯНКА: Прабачце, што пераб'ю вам. Мы ненадоўга забегліся, бо па справах ходзім і шмат каго яшчэ наведаць думаем. Вы, здаецца, атрымалі ад нас пісьмо ў справе зборкі ахвяраў на царкву і дом беларускі... (Марыля і Сьцяпан паглядаюць адзін на другога. Марыля амаль незаўважна махае адмоўна галавой).

СЬЦЯПАН: А так, так, атрымалі. Але я, на жаль, нічога не магу цяпер даць, можа пазьней трошкі... Грошы гэтых, папершае зусім няма. Робіш, робіш і ніяк не настарчысься. А падругое (махае рукой) кінулі-б вы ўжо тую Беларусь будаваць. Каму яна тут трэба...

МІКОЛА: Спадар Пінкевіч, прабачце... Пінк, вы-ж таксама Беларус і некалі можа захочаце дамоў вярнуцца.

СЬЦЯПАН (з усхваляваньнем): Я? Вярнуцца? Куды? На тых пару актараў пяску, казаў той, ды ў лапцёх хадзіць, пану за паўтара пуда жыта цэлы дзень рабіць, казаў той..?! О, не! (Мікола і Янка паглядаюць адзін на другога).

ЯНКА (выцягваючы зь кішэні ліст): Спадар Пінк, калі ня можаце многа, то ахвяруйце хоць пару доляраў, во тут ліст... (стараецца падсунуць яму ліст і алавік).

СЬЦЯПАН (адпіхаючы ліст): Не, браток, не магу. Папершае, каб меў грошы, то можа-б якога далярку... А падругое, казаў той, на тую Беларусь, у тую бяду не паеду. Як прыпомню, казаў той, дзяцюком быў... Прыду ўноччы зь вечарынкі, а маці з пасьцелі да мяне: — Там на стале, Сьцяпан, настольнікам накрыта ў місцы зацірка, бяры еш! Я толькі адкрываць той настольнік, а таракан вялікі, як бык, толькі жж-жжыых! з-пад таго настольніка! Адхацелася табе й зацíркі. Беларусь! Дамоў варочацца! Чаго? У смруд той? У бяду тую, казаў той?!

МІКОЛА: Спадар Пінк, вы добра ведаеце, што ўдома вы ня былі гаспадаром на сваёй зямлі. Усю гэту бяду, смруд, як вы кажаце, прынесьлі нам акупанты.

СЬЦЯПАН (голасна): Акупанты ці дурманты, хто там быў вінаваты — разьбірацца ня будзем. А на тую Беларусь вашу... (махае рукой).

ЯНКА: Як гэта, кажаце, вашу?

СЬЦЯПАН: Ну няхай сабе, казаў той, нашу... Адным словам не паеду болей і на дом нічога ня дам, каб і меў. Дзе тут на ўсё набярэшся? Што гэтыя вашы арганізацыі робяць добрага для нас, што на іх вечна плаціць трэба, канца няма, казаў той?

ЯНКА: Што робяць? Сваім Беларусам памагаюць...

СЬЦЯПАН: От так! Памагаюць! Гэта то вы сказалі, што й куры будуць сьмяяцца. І мне некалі, называецца, памаглі. Вунь на фарму да нейкага чорта нямытага запраторылі, што, казаў той, па шаснаццаць гадзін на дзень мусіў адкалачваць. . (мацае сябе па кішэнях і да Марылі): Марыля, дзе мая табака? (Адчыняе ў століку шуплядку, дзе поўна грошы).

МАРЫЛЯ (маланкай зрываецца з крэсла і зь перапалохам стараецца закрыць шуплядку): А-а-а-х, стой! Што ты робіш! Кажу табе, тут няма тваёй табакі!

ЯНКА (пабачыўшы поўную шуплядку грошаў, з захапленьнем): О-о-о-ох, маткі мае! Столькі грошаў у сваім жыцьці ня бачыў! (Да Сьцяпана зь іроніяй). Спадар Пінк, цяпер мне зусім ясна, якія вы бедныя і як вы канцы із канцамі зьвязываеце...

МАРЫЛЯ (тузаючы Сьцяпана за рукаво): Хадзі, Сьцяпан, ідзём вячэраць. Хадзі Тоні!

# Вялікая крыўда малых рэк

(Заканчэньне з папярэдняга нумару)

### ЗЯЛЁНЫЯ КВАДРАТЫ Й «ЧОРНЫЯ КАРТЫ»

«Чорная карта» — гэта тая-ж апрацаваная плянтацыя тарфяніка плошчай у 10-15 гэктараў, якая адводзіцца пад тую ці іншую культуру. Такіх карт прыпадае па 10-12 на кажны квадратны кіляметар. Паводля няпісаных правілаў мэльяратараў, якія рыхтуюць гэтыя плянтацыі для калгасных агароднік і касцоў, «чорная карта» павінна быць роўнай і гладкай плошчай без адзінага дрэўца й кусьціка. Ужо трэйці год на лясныя масывы прыволменскай поймы наступае гэтая «чорная карта». Сягоньня вы можаце прайсьці дзесяткі вёрст па балотах ад вёсак Замасточча й Застарыньне Менскага раёну да вёскі Верхлес Рудзенскага раёну й налічыце сотні й тысячы гэтых картаў. Толькі вы нідзе, ня сустрэнеце ніводнай белай бярозы, ніводнага дубка, ніводнага ясеня.

Вы, ураджэнец гэтых мясьцін, не пазнаеце родны краявід — настолькі ён зьмяніўся. Вы не паверыце сваім вачом, тым больш, што ў вас у пляншэце або ў сумцы карта-двухкіляметроўка, і адпаведныя квадраты на ёй абазначаны зялёнай хварбай, а невялічкія ўмоўныя знакі — бяроза й елачкка, як жывыя доказы, сьветчаць, што зусім нядаўна й на гэтых мясьцінах шумелі гаі й дубровы.

Дзе-ж яны, гэтая варта жыватворчай вільгаці, духмянага подыху ляснога ветру, які яшчэ нядаўна далятаў аж да ўсходніх ускраін Менску?

З болем прыходзіцца прызнаць, што й гаі й дубровы зложылі свае зялёныя кароны не пад ударамі войстрай сякеры лесаруба, а пад няменш войстрымі нажамі кустарэзаў мэльярацыйных станцыяў. Вось факты. На тэрыторыі толькі Пятровіцкага сельсавету мэльяратары Сьмілавіцкай гідрамэльярацыйнай станцыі на землях трох калгасаў за два апошнія леты разам з хмызамі лазьняку й вербалозу скасілі й выкарчавалі дубовыя, ясеневыя й бярозавыя гаі, лясы на агульнай плошчы 407 гэктараў. Зьніклі пералескі на грудах і лугавых урочышчах у Баркох, на Яснай палянцы, на Дворышчы, Замчышчы і многіх іншых мясьцінах. У гэтых гаёх і пералесках шумелі ня хмызы й лаза. Там сьцяной стаялі пятнаццаці-дваццацігадовыя дубкі, ясені, клёны й бярозы. Улетку гэтыя гаі й пералескі зьяўляліся запаведнікамі зьвера й дзічыны. Хто з паляўнічых не памятае незабыўных глушцовых і цецяруковых токаў на ўскраіне вёсак Дварэц, Забалоцьце? У ўдачлівыя дні тут адзін паляўнічы яшчэ два-тры гады таму назад мог настраляць поўны ягташ чырвонабровых цецярукоў.

Яшчэ вясной 1954 г. толькі ў урочышчы Баркі й Палянкі ў гушчары маладых дубнякоў і бярозавых гаёў мясцовыя паляўнічыя заўважылі да дзесяці выпадкаў барсукоў.Тут вадзілася мноства дзікіх коз, праходзілі навет лані. Ласі ў зімовыя месяцы былі частымі гасьцямі ня толькі каля калгасных стагоў на багатых сенажацях, але й на падворышчах калгасных малочна-таварных фэрмаў у пасёлках Узбарогі й Плюшчай.

Урочышчы Доўгія Груды й Рачное сквозь зарасталі маладняком ясена й клёну. Агульная плошча маладога лесу гэтай залатой пароды нашага найкаштоўнейшага дрэва складала толькі тут 127 гэктараў. Сягоньня на могільніках гэтых дуброў і ясенікаў не засталося навет жывога пянька. Іх выкарчавалі кустарэзы, а бульдозары згрувасьцілі іх у піраміды карчоў, паламаных ствалоў і куп'я. Маладыя кляны й ясені прапалі дарма. Яны гніюць у лаўжах, у пірамідах балотнай зямлі й карчоў, у валках паабапал тых самых «чорных карт». Безгаспадарліва, нячувана, але факт...

Хто вінаваты ў такой незразумелай безгаспадарнасьці, у такім растрачваньні неацэненых багацьцяў прыроды? Старшыні калгасаў? Гэтага нельга сказаць. Віноваты перш за усё кіраўнікі мэльярацыйных работ. Няведаньне абстаноўкі на месцы, нялюбоў або абыякавасьць да харастыва багацьцяў роднай зямлі з боку работнікаў міністэрства мэльярацыі і іншых установаў, якія нясуць адказнасьць за справу асваеньня поймаў малых рэк, прыводзіць да такіх сумных вынікаў.

Так паміраюць дубровы, бярэзьнікі, паміраюць крыніцы й рэкі. Так гіне рыба зьлятае й зыходзіць дзічына, на меюць глушцовыя й цецяруковыя такавішчы, замірае лугавая салаўіная песьня.

Перажыўшая свой век шкодная дзедаўская адгаворка: «На наш век лесу хопіць», народжаная колішнімі зьлішкамі нашых лясных багацьцяў, бытуе шмат дзе й сяньня. А тым часам у міністэрстве мэльярацыі, цэнтральнай управе лясной аховы і ў іншых установах, дзе павінны былі-б пагаспадарску й клапатліва ўлічыць ўсе магчымасьці непрадбачлівых няміласьцяў прыроды ў выніку зьнішчэньня й пашкоджаньня векавых лясоў, часам зза сухастою дырэктываў ня могуць разгледзець лёс беларускага лесу.

**Язэп Семяжонаў**

# „Радзіма бязь Беларусі"

(Заканчэньне з 2-ой бач.)

вавыя шляхі Сталінавага дэспатызму, гацячы іх ахвярамі стрэлаў у патыліцу ды іншых зьдзекаў. Некалі пісалася «дзякуючы мудраму Сталіну», а цяпер — «дзякуючы партыі і ўраду». Усё тое самае, толькі бяз Сталіна. Пры новым «кіраўніцтве» кроў нявінных ня шчэзла з Вашых рук. Няшчасныя тыя людзі, што пад Вашым «наглядам» змушаныя пісаць і пасылаць нам камуністычны дурман.

Фашыстоўскай дыктатуры ўжо няма. Засталася дыктатура расейска-бальшавіцкая. Ад-жа паводля запраўднага стану рэчаў, зьміначыўшы ўсяго два словы: «фашысцкая» — на «бальшавіцкая» і «капіталізму» на «камунізму», можна вельмі слушна выказацца словамі Піліпа Пестрака: «Бальшавіцкая дыктатура — гэта шыбеніца для лепшых сыноў народу, гэта канц-лягеры, гэта катоўні ў паліцэйскіх участках (засьценках МВД — С. Н.), гэта — заняволеньне ўсяго народу, яго абяздоленьне... Трэба памятаць, што час працуе супраць ворагаў міру, што час працуе для мільёнаў народных мас усіх краін сьвету ў іх барацьбе за мір, за вызваленьне ад ярма камунізму, за вольнае, шчасьлівае жыцьцё, за вялікую дружбу народаў».

Мы бяром удзел у гэтым змаганьні-барацьбе і зь перамогай бясспрэчна вернемся.

**Аўстралія**

**Сьцяпан Нечапаловіч**

# Катняя літасьць

(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)

«радаснага папаўненьня», каб яно не падумала, што рэгабілітацыя азначае нейкую свабоду творчасьці, той-жа Броўка, выконваючы афіцыйнае заданьне, ужо без сантымэнтаў сказаў празаічную, але вельмі выразную, неадлучную ад дыктатуры рэч: «Але мы не павінны забывацца і на ідэялягічныя памылкі, зробленыя ў свой час некаторымі зь іх...» А далей яшчэ больш пагрозьліва: «Мы ня маем ніякага права забывацца аб ідэялягічнай барацьбе, праведзенай нашай партыяй...»

Пра якія-ж «ідэялягічныя памылкі» прыгадалі рэгабілітаваным, а разам і ўсім пісьменьнікам? Гэта старая, але нязыходна непакойлівая для рэжыму нацыянальная справа, якую ніяк не ўдаецца ўмасьціць у савецкі патрыятызм, як шыльду ідэялёгіі маскоўскага Крамля. І сяньня г. зв. нацыянальныя ўхілы расцэньваюцца за сьмяротны грэх ды папераджаюць аб гэтым пісьменьнікаў.

Можна з пэўнасьцяй сказаць, што гэтае «ўступілі ў строй» — адны па адабраньні жыцьця, а іншыя яшчэ пры жыцьці-дажываньні — будзе выстаўляцца, як адно з дасягненьняў да надыходных 40-ых угодкаў рэжыму.

Рэгабілітаваныя вызваленыя з-пад загаду, але не з-пад нагляду савецкіх органаў бясьпекі ды трапілі пад загад агульнапартыйны на дзялянцы літаратуры. Якраз ён і вымагае складаць гімн ня толькі сяньняшняму савецкаму дню, але й ператвараць злачын рэжыму ў дабрадзейства, называць ссыльнога савецкім чалавекам, які з гонарам забудоўваў паўночную лёдавую пустэчу ды славіў забойны да яго рэжым.

Пэратварэньне нявольніка ў савецкага патрыёта праз гвалт над собскім сумленьнем магло стацца адно там, дзе недазволена называць рэчы сваімі іменамі. Вось чаму застаецца без мастацкага зрэалізаваньня хвалюючая, наскрозь трагічная, глыбока асабістая й разам шырокага зусполу тэма пра адабраныя дваццаць гадоў найлепшай, бо маладзейшай і найбольш творчаздольнай пары жыцьця. Гэткія тэмы не для савецкай, мусова дагаджальнай літаратуры, пазбаўленай мужнага й праўдзівага мастацкага слова.

**Алесь Беразьняк**

# Крыху аб гісторыі

Ня можна сказаць, што нашай гісторыяй ніхто не займаецца. Гісторыя нашага народу не распрацоўваецца, але ёй займаюцца ўсе нашыя чатыры суседзі там на Бацькаўшчыне й тут на эміграцыі. Аднак яны зацікаўленыя натолькі гісторыяй нашага народу, наколькі зацікаўлены рыбалоў мутнай вадой віроў, бачучы ў іх багатую рыбную здабычу. Таму ня дзіва, што, прачытаўшы колькі «капітальных» працаў гісторыкаў усіх чатырох нашых суседзяў, прысьвечаныя спэцыяльна гісторыі беларускага народу ці гісторыі сваіх народаў, мы сустрэнемся з масай разнастайных канцэпцыяў што да гісторыі беларускага народу, із шматлікімі «адкрыцьцямі» і супярэчнасьцямі ды нагул з рознай бязглузьдзіцай. Аднак пераважная большасьць гэтых гісторыкаў згаджаюцца ў вадным: у адмаўленьні гісторыі беларускаму народу, а часам і ў «спачуваньні» гэтаму народу. Гэтак мы знойдзем у гэтых «салідна-навуковых» працах і «матчынае» спачуваньне Расеі, і «братэрскае» пажаданьне Ўкраіны, і сьлязінку «сястрычак» Польшчы й радзей Летувы. Усе «люляюць», адным словам, напяваючы пацяшальныя казачкі аб «рускіх багатырах» і іхных «вызвольных» паходах, аб «князь-гораду-Кіеву», аб «дзяржаўных геніях» Жмудзі і нявінна-дзявочай Польшчы: «хай дрэмле забаюканае бязраднае дзіцятка й сьніць крозы пад казачкі чараўніцы». Адным словам, «ня судзіла гісторыя долі беларускаму народу...», і зноў сьлёзы... ды шкада толькі, што яны кракадзілавы. Забыўшыся часам на гэтыя сьлёзы, гісторыкі-«экспарты» раптам пачынаюць перапелянаць гэтае бяздарнае дзіцятка й тады... зьяўляецца ўяўны дух (нядаўна аб падобных «духах» вельмі трапна выразіўся адзін «дзядзька») які насоўваецца на нашых Усяславаў Чарадзеяў і Прадславаў Полацкіх, нашых Кірылаў Тураўскіх і Клімэньцяў Смаляцічаў, нашых Скарынаў і Сымонаў Будных, нашых Васілёў Цяпінскіх, Сапегаў і Сымонаў Полацкіх і г. д., робячы зь іх і чыстакроўных Расейцаў, і Ўкраінцаў, і Палякаў, і Летувісаў.

Чаму вось гэтыя сьлёзы, гэтая ігнарацыя й хвальшаваньне гісторыі народу, чаму гэтае мэтамарфознае прыстасаваньне да пажаданьняў нашых суседзяў? Аб прычынах дагадацца ня зусім ўжо й цяжка: справа ў тым, што нашых суседзяў не пакідае кракадзілавы апэтыт. Гэта галоўная прычына, а да яе яшчэ даходзіць пэўная нацыянальная зайздрасьць некаторых нашых суседзяў. Таму й «ня маюць Беларусы свае собскае гісторыі». Дзіўна, але ня зусім — ад «гісторыкаў», што хварэюць на ўспомнены апэтыт, трудна чакаць аб'ектыўнага насьвятленьня гісторыі нашага народу, бо гэта будзе азначаць адрачэньне ад тых спакусных мрояў, што так пацяшаюць узбуджаны страўнік.

*

Сумна, але прыходзіцца сьцьвярджаць, што XIX і XX стагодзьдзі, стагодзьдзі разьвіцьця гістарычнай навукі, ня выдзялілі з асяродзьдзя беларускага народу нацыянальных гісторыкаў. Калі яны часамі й нараджаліся, ім-жа зразу падразалі крыльлі. Народ быў і цяпер знаходзіцца ў няволі, якая характарызуецца фразай: «не сметь своего суждения иметь»! Архівы былі вывезеныя й заплямбаваныя у падвалах нашых двух супрацьлеглых суседзяў — у Маскве й Варшаве. Іхняе места занялі «капітальныя» працы, у якіх, акрамя тэрмінаў «Беларус» і «беларускі» ды кракадзілавых сьлёзаў, амаль нічога гістарычнага не засталося. Таму й стваraецца ўражаньне, што беларускі народ і запраўды ня меў свае гісторыі, жыў на маргінэсе гісторыі. Ці гэта так?

Прыкладам, нам гавораць, што ў часы існаваньня Кіеўскага княства ці, як яго звычайна называюць, Кіеўскай Русі, ня было навет і зародку гаспадарстзвавасьці беларускага народу. Было адно гаспадарства з адным народам — Кіеўскае гаспадарства. Дапусьцім гэтую думку, дапусьцім, што Кіеўскае гаспадарства X—XI стагодзьдзяў было сцэнтралізаваным і абыймала ўсе землі ўсходніх славянаў. Аднак гэта яшчэ нічога не гаворыць, што ў гэтым гаспадарстве мог скрышталізавацца адзін народ. Паняцьце гаспадарствавасьці ў той час было даволі адносным паняцьцем. Большасьць гаспадарствавых канглямэратаў таго часу былі штучнымі творамі, збудаваныя на прынцыпах прыватных умоваў мясцовых князёў з «цэнтральнай» уладай. Яны часта насілі ха-

(Заканчэньне на 4-ай бачыне)

ТАНЯ: Зараз прыду, мама. (Бацькі, паглядаючы скоса на Янку й Міколу, выходзяць праз правыя дзьверы. Янка збліжаецца да левых дзьвярэй).

### ЗЬЯВА VII

**Таня, Мікола, Янка**

ЯНКА: Хадзі, Мікола! Мусім пасьпяшыцца. Выглядае, што дарэмна мы тут час трацілі.

МІКОЛА (падыходзіць да Тані і стараецца ўзяць яе за руку): Таня, давай пойдзем з табою заўтра на танцы.

ТАНЯ: Аўць! Донт тач мі![31] І я ўжо ня Таня, а Тоні!

МІКОЛА: Окэй, няхай сабе Тоні. То пойдзем заўтра на танцы, дарлінг[32] Тоні?

ТАНЯ: Дарлінг? Які я табе дарлінг, ты Мікола Корч? (яна ўстае з канапы і прыбліжаецца да Міколы). Я ня была тваім дарлінгам і ня буду. Ха-ха-ха! І ён яшчэ асьмеліўся мяне замуж прасіць. Ты знаеш, Мікола Корч, я маю лепшага хлапца чым ты. Ён на інжынера вучыцца і ён мяне замуж возьме. Я буду лейды[33], а ня нейкая там жонка бама[34], як ты... Місыс Карчыха... Ха-ха-ха... карчыха...

ЯНКА: Мікола, хадзем!

МІКОЛА (зачырванеўшыся): Лейды? Ну, ты-ж і надаешся на лейды,пабачым... (да Янкі). Хадзем. (Выходзяць празь левыя дзьверы).

### ЗЬЯВА VIII

**Таня адна**

ТАНЯ (бярэ із століка люстэрка і, папраўляючы валасы, гаворыць да сябе): Місыс Карчыха. Ха-ха-ха! Жаніх найшоўся, бам гэткі! (Чуваць зь левага боку стук у дзьверы).

ТАНЯ (да сябе): А Божа-ж мой, гэта-ж пэўна Джоў, а ў мяне тут такі непарадак! (Падсоўвае крэслы да стала, папраўляе канапу), Камін плііс!

### ЗЬЯВА IX

**Таня і Джоў**

ДЖОЎ (уваходзячы): Гэлоў, Тоні! (У яго вожыкам абстрыжаныя валасы, спартовая марынарка з рэклямаю сьпераду й ззаду, штаны з вузенькімі калошамі).

ТАНЯ (падбягае да яго, растапырывае рукі і вешаецца на шыю): — Гээлооў, дарлінг... (Доўга цалуюцца, пасьля Таня яго адпіхае і садзіць на канапе. Сама садзіцца збоку і, прытуліўшыся, кладзе галаву на ягонае плячо).

ДЖОЎ (абдымаючы Таню): О-го, якая ты сяньня прыгожая!...

ТАНЯ: Для цябе, Джоў, я заўсёды хачу быць прыгожая...

ДЖОЎ: Сумавала за мною (цалуе ў шчаку), га, дарлінг?

ТАНЯ (трэцца каля яго, як котка): Сюр[35], дарлінг, кажны дзень. А чаму-ж ты так позна?

ДЖОЎ: Я хацеў раней, але там госьці з Флярыды, дык ня мог вырвацца, хоць і ненадоўга.

ТАНЯ: Ох, но, Джоў, не кажы, што зараз уцякаеш. Хіба якія дзяўчаты ў госьці прыехалі?

ДЖОЎ: Но, не, дзяўчаты. Старыя да бацькі. Слухай, а якія тут ад цябе два хлопцы пайшлі?

ТАНЯ: Хлопцы? О, гэтыя... Гэта два дыпісы, прыходзілі грошы на арганізацыйны дом зьбіраць. Слухай Джоў, я тут маю новы рэкорд[36], надзвычайна прыгожы танец.

ДЖОЎ: Ес[37]? Давай зайграем. (Таня бярэ із століка, што каля канапы, кружэлку, падае яе Джону, а той настаўляе грамафон. Чуваць гадкія прарэзьлівыя гукі «рок'н'рол». Джоў бярэ Таню, падымаючы яе за правую руку з канапы і пачынаюць танцаваць, брыдка выкручываючыся).

ТАНЯ: Ляйк іт[38], дарлінг?

ДЖОЎ: Сюр, дарлінг, сюр... (Нейкі час танцуюць, моцна прытуліўшыся).

ДЖОЎ: Любіш мяне, дарлінг?

ТАНЯ: Люблю.

ДЖОЎ: Моцна?

ТАНЯ: О, так, Джоў, моцна люблю. (Памаўчаўшы). А ты мяне?

ДЖОЎ: І я цябе. Нейкі час танцуюць моўчкі. Пасьля садзяцца на канапу і доўга цалуюцца).

ТАНЯ (шопатам): Будзеш добры, то табе нешта пакажу?

ДЖОЎ: Што-ж ты пакажаш?

ТАНЯ: А будзеш добры?

ДЖОЎ: Добра, буду, паказвай.

ТАНЯ (Закрывае яму двума пальцамі рот): Толькі ціха будзь. (Устае і, падыйшоўшы да стала, адчыняе шуплядку з грашмі. За ёю Джоў на цыпачках. Убачыўшы грошы, робіць вялікую міну ізь зьдзіўленьня. і суне руку ў шуплядку. Таня б'е яго нехаця па руцэ і адпыхае).

ТАНЯ: Аўць! Не твае!

ДЖОЎ: Май год[39]! Што вы банк абрабавалі?

ТАНЯ: Што ты! Бацька зарабіў. (Цягне яго і зноў садзіць на канапу).

ДЖОЎ: Колькі грошаў. Цэлы банк можаце закладаць. Каб мне хоць палавіну...

ТАНЯ (махаючы пальцам): О-о-о! Зарабі сам.

ДЖОЎ: Што ты хочаш зь беднага студэнта?

ТАНЯ: Ці-ж ты ўжо такі бедны?

ДЖОЎ: А што, можа й багаты?

ТАНЯ: А бацька табе не дае ўволю грошаў?

ДЖОЎ: Уволю? Што ты?

ТАНЯ: Ну нічога. Навучышся за інжынера, тады будзеш багацейшы за бацьку.

ДЖОЎ: Як буду інжынерам, то грошы ў мяне й сьвіньні ня будуць есьці. Пажэнімся, будзем мець прыгожы дом, многа дзетак. Так, дарлінг?

ТАНЯ: Можа й будзеце, хто вас ведае. А зь кім-жа вы пажэніцеся, калі можна ведаць?

ДЖОЎ: От дзіўная, яшчэ пытаецца. З табой-жа.

ТАНЯ: Зы мной! Ты-ж мяне й не прасіў.

ДЖОЎ: А як папрашу?

ТАНЯ: Ну дык прасі.

ДЖОЎ (устае і наўмысьля з усьмешкаю кланяецца Тані, нізка зьгінаючыся): Міс Тоні Пінк, будзьце добры выйсьці за мяне замуж!

ТАНЯ (цягне яго за руку і садзіць на канапу): Даволі ўжо выдурняцца. Сядай і будзь добрым хлопчыкам.

ДЖОЎ: Я зусім ня выдурняюся, я сур'ёзна.

ТАНЯ (дражніць яго): О так, зусім сур'ёзна. (Устае і ходзіць па пакоі, выкрыўляючыся). Міс Тоні, будзьце добры пайсьці за мяне замуж. Чаму яшчэ не запытаешся: міс Тоні, а ці прынясеш мне пару тысяч пасагу?

ДЖОЎ: Тоні, я не жартую. (Маўчаньне).

ТАНЯ: Ты хочаш жаніцца, а хто-ж за цябе вучыцца будзе?

ДЖОЎ: Я сам.

ТАНЯ: А хто-ж на жонку працаваць будзе?

ДЖОЎ: Можа жонцы яшчэ прыдзецца папрацаваць і самой... (Маўчаньне. Джоў падыходзіць да Тоні і бярэ яе за абедзьве рукі. Глядзіць проста ў вочы).

ДЖОЎ: Дарлінг, што ты на гэта?

ТАНЯ: Што я на што?

ДЖОЎ: Будзеш маей жонкай ці не?

ТАНЯ: Джоў, я так хацела-б, але-ж ты яшчэ школы ня скончыў.

ДЖОЎ: Донт воры[40], школу скончу і будзем жыць файна, а да таго часу неяк прабяжыць.

ТАНЯ: Ну глядзі-ж...

(Абдымаюцца і цалуюцца).

**ЗАСЛОНА**

(Далей будзе)

